*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*


# Слонімскі край



2018, № 12(34). Снежань


## З Калядамі і Новым годам!

Рэдакцыя “СК” віншуе сваіх шматлікіх чытачоў са святамі — з Калядамі і Новым годам! Шчыра жадаем вам здароўя, шчасця, дабрабыту. Няхай 2019-ы прынясе больш пазітыву і радасці, менш праблем і расчараванняў. Хочацца верыць, што ў новым годзе паціху пачне ажываць эканоміка нашай Слонімшчыны, якую давялі да заняпаду ранейшыя няўмелыя кіраўнікі. Што наша Бацькаўшчына-Беларусь захавае дзяржаўную незалежнасць, нягледзячы ні на якія тайныя планы замежных камбінатараў.

Будзем разам і ў наступным годзе. Для нас ён стане ўжо чацвёртым. І штомесяц да вас будзе прыходзіць “Слонімскі край”.




Фрагмент святочнай паштоўкі ад нашага чытача Алега Карповіча

## Слонімцы ў дакументах расійскіх архіваў



М. В. Д.
ПРИСТАВЪ
5-го стана
Слонимскаго уѣзда
Гродненской губерніи.
Декабря 31 дня 1916 г.
№

REGISTERED.
22 JAN 1917
JAN 18 1917
PETROGRAD


*Працяг на ст.5.*


## Спіс слонімскіх “мяшчан-земляробаў”

Мяшчане — саслоўе, якое існавала ў Вялікім княстве Літоўскім амаль ад самага пачатку яго існавання. Да яго належалі гараджане — рамеснікі, купцы, гандляры, службоўцы магістрату — у сваёй бальшыні людзі адукаваныя. У некаторых гарадах мяшчанамі былі і ўладальнікі зямлі ў іх наваколлі (яны вызваляліся ад падаткаў, але выконвалі вайсковую службу). Такія былі і ў Слоніме. Мяшчане падзяляліся на яўрэяў і хрысціян. Гэты падзел існаваў і ў часы знаходжання ВКЛ у складзе Расійскай імперыі.

“СК” распавядаў пра судовы працэс слонімскіх мяшчан з гарадскімі ўладамі наконт права на карыстанне гарадскім лесам.*


*Працяг на ст.3.*

ХРОНІКА

# Для помніка Сапегу на плошчы шукалі месца

Пасля таго, як мясцовыя ўлады вызначыліся з плошчай, на якой з’явіцца помнік Льву Сапегу, і выбралі праект (сярод яго аўтараў наш зямляк, скульптар Іван Міско)*, трэба было знайсці ідэальнае месца для ўсталявання. Для гэтага 10 снежня на плошчу Леніна прывозілі паўнамаштабны макет помніка. Спецыялістам не цяжка будзе вызначыць найлепшы варыянт. Далей — “папяровая” праца. А летам 2019-га пачнуцца працы па ўстаноўцы помніка. Яго ўрачыстае адкрыццё запланаванае на 1 верасня, калі ў нашым горадзе пройдзе рэспубліканскае свята “Дзень беларускага пісьменства і друку”.

●СЁ







*Фота: slonves.by*

**Ёрш С. Выбраны эскізны праект помніка Льву Сапегу // Слонімскі край, 2018, № 11(33). Лістапад. С. 2.*

## Саўмін прыняў пастанову па свяце ў Слоніме

Створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні 1 верасня 2019 года ў Слоніме XXVI Дня беларускага пісьменства. У адпаведнасці з пастановай Саўміна ад 20 снежня, падпісанай прэм’ерам Сяргеем Румасам, яго ўзначаліў Ігар Петрышэнка, намеснік прэм’ер-міністра. У склад аргкамітэта ўвайшлі амаль два дзясяткі чалавек — міністры культуры, адукацыі, інфармацыі, старшыні Гродзенскага аблвыканкама і Слонімскага райвыканкама.

●ГГ

## Каляндарык з Агінскім

У Слонімскай друкарні надрукаваны каляндарык на 2019 год. На ім адлюстраваны Міхар Казімір Агінскі (1730 — 1800), слонімскі староста, пачынальнік тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне, які ў XVIII стагоддзі заснаваў у нашым горадзе вядомы на ўсю Еўропу тэатр.

Каляндарык выпусціў Слонімскі драматычны тэатр.

●СЧ



# Спіс слонімскіх "мяшчан-землеробаў"

*Працяг, пачатак на ст.1.*



У архіве Ніны Пятроўны Лукашэйка (Сяменік) захоўваўся польскамоўны "Спіс мяшчан-хрысціян–землеробаў г. Слоніма, якія належаць да саслоўя мяшчан-хрысціян г. Слоніма". Складзены ён быў 25 лютага 1930 года. З дадатку да дакумента вынікае, што згаданыя ў спісе асобы (агулам 72 пазіцыі) належалі да саслоўя мяшчан Слоніма яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны. Спіс падпісалі Аляксандр Шыманскі, былы мяшчанскі староста Слоніма, і Францішак Межаеўскі, былы сакратар Слонімскай мяшчанскай управы.

Дзяконскі Антон
Вайткевіч Іпаліт
Шаўлевіч Вінцэнт
Дабравольскі Мацей
нашчадкі Антона Скаўронскага
нашчадкі Яна Скаўронскага
Дабравольскі Францішак
Дабравольскі Казімір
Шаўлевіч Антон
Скаўронскі Міхал
нашчадкі Юрыя Батурлі
Шых Уладзіслаў
нашчадкі Адама Судніка
нашчадкі Вінцэнта Шыманскага
Сабалеўскі Вінцэнт
Давыдаў Язэп
Шыманскі Аляксандр
Скаўронскі Андрэй
нашчадкі Аўгусціна Надзіеўскага
нашчадкі Адама Сакалоўскага
нашчадкі Міхала Скаўронскага
Камінскі Рафал
нашчадкі Яна Барука
Паважынскі Фелікс
Паважынскі Марцін
Сяменік Філіп
Сяменік Баляслаў
нашчадкі Караля Рудкоўскага
Варонка Казімір
Варонка Францішак
нашчадкі Вінцэнта Варонкі
Сяменік Пётр
Мэртэнс Вільгельм
Багдановіч Рыгор
Петрашкевіч Мацей
Бранцэвіч Аляксандр
нашчадкі Даменіка Надзіеўскага
нашчадкі Антона Багдановіча
Надзіеўскі Станіслаў
Рацько Барыс
Мушынская Ганна
Цэдроўскі Гіпаліт
Будрэвіч Антон
нашчадкі Якуба Пятроўскага
нашчадкі Антона Сяменіка
Лукашэвіч Казімір
Касцюк Мікалай
Вецько (?) Дзеанісій
Суднік Язэп
Будрэвіч Ян
Аляшкевіч Сцяпан
Навіцкі Казімір
Навіцкі Вінцэнт
нашчадкі Яна Навіцкага
нашчадкі Міхала Лукашэвіча
Юшкевіч Адам
Бараноўскі Сцяпан
Бертман Вінцэнт
Фармушэвіч Адам
Фармушэвіч Антон
Ленцкевіч Казімір
Фармушэвіч Аляксандр
нашчадкі Андрэя Касцюка
нашчадкі Францішка Лукашэвіча
Рацько Гіляры
Бараноўскі Канстанцін
Стэрнат (?) Браніслаў
Сабалеўскі Казімір
Тамашэўскі Антон
Юшкевіч Юрый
Сяменік Антоні
нашчадкі Рыгора Ярашэвіча

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш


Alexander syn Alexandra
Franciszek syn Jana

**СЁ. Як слонімскія мяшчане выйгралі ў магістрата суд // Слонімскі край, 2018, № 4(26). Красавік. С. 11-13; Ёрш С. Суд за гарадскі лес // Слонімскі край, 2018, № 5(27). Травень. С. 14-15; № 6(28). Чэрвень. С. 15; № 8(30). Жнівень. С. 16.*

# Пра нерухомасць і вытворчасць слонімскіх мяшчан

У манаграфіі* Ксеніі Церашковай, якая пабачыла свет сёлета, ёсць згадкі і пра слонімскіх мяшчан. Даследчыца піша, што па стане на 1888 год нерухомая маёмасць у Слоніме была ацэненая на суму больш за 751 тысячу рублёў. 74,4% ад гэтай сумы прыпадала на дамы яўрэяў-мяшчан і купцоў, 11,4% — мяшчан-хрысціян, 9,5% — дваран-хрысціян, 4,7% — дваран-магаметан.

Гарадскі бюджэт істотна папаўняўся з дапамогай падатку з нерухомай маёмасці, у тым ліку і з уладальнікаў зямельных участкаў. У 1895 годзе жыхары Слоніма мусілі заплаціць 5038 рублёў падатку і амаль 2842 рублі ацэначнага збору. На мяшчан-хрысціян прыпадала адпаведна 538,34 і 324,46 рубля, на яўрэяў — 3835,7 і 2115,82, на дваран-хрысціян — 444,62 і 269,46, на дваран-магаметан — 219,97 і 132,22. Ці цалкам былі




выплачаныя гэтыя сумы, аўтар даследавання не паведамляе. Аднак вядома, што ў наступным годзе жыхары горада заплацілі 4201 рубель падатку і 4532,3 ацэначнага збору.

У кнізе змешчаныя статыстычныя дадзеныя пра прамысловую вытворчасць мяшчан у 1908 годзе. Сярод прадпрыемстваў механічнай апрацоўкі дрэва прысутнічае адно са Слоніма — братоў Лейба і Хацкеля Айзенштатаў. На ім працавала 27 наёмных рабочых. Цэглу ў нашым горадзе выпускалі прадпрыемствы Абрама Пагурскага (15 рабочых), Бурды ды Шапяцінскага (10). На скураной вытворчасці Гольдзінберга працавалі 14 чалавек, на піва-мёдаварнай Евеля Закгейма — 1, на мукамольнай Цаля Куніцы (у Слоніме, быў вадзяны рухавік) — 6, Гірша Грайвера (у Альбярціне, электрычны рухавік) — 3, Мінца (ва ўрочышчы Альшанка-Бярозаўка ў Чамярской воласці, лакамабільны рухавік) — 3.

●Генадзь Гурскі

**Церашкова К. Мяшчане ў сацыяльна-эканамічным развіцці беларуска-літоўскіх губерняў (1861 — 1914 гг.). — Мінск: "Беларуская навука", 2018.*

IN MEMORIAM

# Памерла дачка Язэпа Стаброўскага

12 снежня ў Слоніме памерла Дзіляра Смірнова, дачка краязнаўцы і археолага, заснавальніка раённага краязнаўчага музея Язэпа Стаброўскага. Яна доўгі час жыла ў Крыме, адкуль вярнулася ў родны горад, у свой дом на Камсамольскай вуліцы (былой Замкавай). Кантактавала з супрацоўнікамі нашай рэдакцыі.*

Дзіляра Язэпаўна перажыла бацьку на паўстагоддзя. 14 снежня яе пахавалі ў Орлавічах каля яго магілы.

Светлая памяць!

*Рэдакцыя "СК"*



*Эльміра, Язэп і Дзіляра Стаброўскія*

*Сёлета з яе дапамогай з'явілася наступная публікацыя: Чыгрын С. Сяргей Новік-Пяюн у альбоме Язэпа Стаброўскага // Слонімскі край, 2018, № 8(30). Жнівень. С. 17.

# Слонімцы ў дакументах расійскіх архіваў

На партале “Памяці герояў Вялікай вайны 1914 — 1918 гадоў” (gwar.mil.ru), створаным Мінабароны РФ пры падтрымцы архівістаў і гісторыкаў, адшукаліся дадзеныя пра сотні слонімцаў. Адсканаваныя дакументы паходзяць з розных установаў — з Дзяржаўнага архіву РФ, Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіву і нават з Архіву знешняй палітыкі Расійскай імперыі.

Намі выяўлены спіс бежанцаў, адпраўленых восенню 1918 года з Аханскага ўезда Пермскай губерні на радзіму, у Слонімскі павет. Дакумент на рускай і нямецкай мовах. У спісе 53 асобы дарослых і дзяцей: Угрыновічы, Страковічы, Казлоўскія, Кадзешкі, Грынчукі, Борыкі, Вароны, Хварышчыкі. Дакумент захоўваецца ў Дзяржаўным архіве РФ.

У Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве знайшоўся ліст дырэктара Слонімскай рэальнай вучэльні Собалева ад 31 жніўня 1916 года ў штаб галоўнакамандуючага арміямі Паўночнага фронту. З яго вынікае, што эвакуяваная навучальная ўстанова ў той час знаходзілася ў горадзе Араніенбауме (цяпер — Ламаносаў) пад Санкт-Пецярбургам. Расійскія архівісты памылкова расшыфравалі назву вучэльні ў дакуменце, як *“Олонимское”*…

У Архіве знешняй палітыкі Расійскай імперыі захоўваюцца некалькі дакументаў у справе пошуку прапаршчыка Захара Гайдукевіча. З іх вынікае, што у 1916-1917 гадах эвакуяваная слонімская паліцыя знаходзілася ў Сіняўцы на Случчыне. Прыстаў 5-га стану Слонімскага павету 31 снежня 1916 года даслаў у амерыканскае пасольства запыт у справе пошуку сярод ваеннапалонных згаданага Гайдукевіча. У лютым 1917-га пачаў шукаць дадзеныя пра прапаршчыка і Аддзел па ваеннапалонных. На жаль, невядома, ці ўдалося нешта даведацца пра яго лёс.

З дакумента, які захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве, вынікае, што слонімскім павятовым ваенным начальнікам з 25 верасня 1916-га быў палкоўнік

*Працяг на ст.6.*


Вход.№ 50896/1970.2/IX. Копія
ДИРЕКТОРЪ
СЛОНИМСКАГО
Реальнаго Училища.
№ 31.
Августа 31 дня 1916 года.
Ваше Высокопревосходительство Милостивый Государь Николай Владимировичъ.
356
Ораніенбаумскимъ Отд... Петроградской Педагогической Коммисіи устроено въ г.Ораніенбаумъ обще-


КОМАНДИРЪ 5-ой автомобильной роты ...тровой части ...1 Августа 5 г. № 5212
ЭКСРЕННЫЙ ОТЗЫВЪ
Копія 135
Начальнику ст. Слонимъ Полѣсск. ж. д.
Предлагается принять для перевозки по желѣзной дорогѣ до ст. Минскъ Александр. ж. д. два крытыхъ товарныхъ вагона груженныхъ гаражнымъ имуществомъ и сопровождающаго этотъ грузъ рядового Захарія Бѣланъ.


Телеграмма. Отпр. 20/IX 1914. Слонимъ
Генералу ...
Штабъ двадцать седьмого корпуса очень нуждается въ автомобиляхъ точка Не найдете ли возможнымъ снабдить ...


СЕКРЕТНО.
СООБРАЖЕНІЯ
214
о переходѣ въ наступленіе на Слонимскомъ направленіи.
(Карта 3 версты въ дюймѣ.)
А. СООБРАЖЕНІЯ ОБЩІЯ.


Слонимскій Уѣздный Воинскій Начальникъ.
ПОЛКОВНИКЪ
Вр.и.д. Дѣлопроизводителя, Надворный Совѣтникъ

# Слонімцы ў дакументах расійскіх архіваў




*Працяг, пачатак на ст.1,5.*

Феафан Адрыянавіч Міхельсон, 1865 года нараджэння, праваслаўны, з мяшчан горада Рыгі. Абавязкі справаводцы з 10 лістапада 1916-га часова выконваў надворны дарадца Павел Нікіфаравіч Шляпін, 1858 года нараджэння. Яны пакінулі свае подпісы.

У Дзяржаўным архіве РФ захоўваецца выпіска з метрычнай кнігі Перавалоцкай царквы пра народжаных у 1893 годзе, выдадзеная ў ліпені 1909-га святаром Яўгенам Белавендзевым і псаломшчыкам Антонам Савічам для прадастаўлення ў навучальную ўстанову. У ёй засведчанае нараджэнне Фёдара Ігнатовіча, сына сялян Сямёна Фадзеевіча і Кацярыны Фёдараўны Ігнатовічаў. Хроснымі бацькамі былі Сцяпан Венедыктавіч Саламевіч з Пераваловкі і Алена Фёдараўна Пузыновіч з Вострава.

У адным з дакументаў ёсць спіс асобаў, на якіх ускладзеныя абавязкі вайсковых цэнзараў у Слонімскім і шэрагу іншых паветаў, складзены ў 1914-м у штабе армій Паўночна-Заходняга фронту. У Слоніме ім быў Ігнацій Вайткоўскі, у Альбярціне — Канстанцін Львоў, у Жыровічах — Лаўр Ёрш.

Менш цікавыя прапановы падпалкоўніка расійскага Генштабу Грыгор’ева аб пераходзе ў наступленне на Слонімскім накірунку. Яны без даты, але найхутчэй адносяцца да канца 1915-га — да 1916 года.

Вельмі шмат дакументаў пра нашых землякоў, якія былі параненыя на франтах Першай сусветнай вайны, зніклі без вестак ці трапілі ў палон. Напрыклад, восенню 1914-га ў Польшчы знік без вестак ураджэнец Слоніма, шэраговец Іван Якаўлевіч Байрашэўскі, які служыў у 118-м пяхотным Шуйскім палку. 2 верасня 1915-га загінуў слонімец Гаўрыіл Аляксандравіч Радзішэўскі з 281-га пяхотнага Новамаскоўскага палка. Летам таго ж года знік без звестак Баляслаў Мартынавіч Сакалоўскі са Слоніма, які служыў у 2-м Калішскім памежным пяхотным палку. За год да таго пад Лодзю знік шэраговец 118-га палка Іван Мікалаевіч Лішык. У Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве захоўваюцца карткі вайскоўцаў рускай арміі, якія трапілі ў нямецкі палон. Сярод іх ёсць і нашы землякі: Іосіф Рахмілевіч, Міхаіл Высоцкі, Іосіф Радзецкі, Майсей Шундроўскі...

Дакументы з расійскіх архіваў дазваляюць прасачыць, як у расійскім войску адбывалася русіфікацыя ці скажэнне прозвішчаў беларусаў. У лейб-гвардыі 2-м стралковым Царскасельскім палку служыў мой зямляк з вёскі Савічы Іван Кірылавіч Ануфрэня. Меў званне яфрэйтара. Дзесьці на фронце быў паранены куляй у левае калена, лячыўся ў шпіталі ў Маскве. У картцы параненага яго запісалі як… Ануфрэніна. У дакуменце аб прыёме параненага, які таксама захаваўся, яго ўжо называюць… Ануфракіным. Даведваемся, што яму было 26 гадоў, сям’і яшчэ не стварыў. У шпіталь Івана Ануфрэню прывезлі 4 верасня 1914 года, даставілі з цягніка. Атрымліваецца, што ён быў паранены ўжо на самым пачатку вайны.

Ёсць і карткі Цімафея Кірылавіча Ануфрэні. Ён таксама з вёскі Савічы Шылавіцкай воласці. Браты? У 1915-м яго прывезлі на лячэнне ў Выйскі лазарэт у Пермскай губерні. У картцы запісалі… “Ануфрэнін”, пасля выправілі на… “Ануфрынін”. Было яму 37 гадоў, меў сям’ю. Да ранення служыў у 493-м пяхотным палку. У 1916-м яшчэ аднаго Цімафея Кірылавіча Ануфрэню з хваробай прывезлі на лячэнне ў Казанскую губерню. У картцы запісалі: “Ануфрэнь” (ці “Ануфрэн”)… Ураджэнец Савічаў быў шэрагоўцам 68-га конна-санітарнага транспарту. Яму быў 41 год.

Кожны можа зайсці на сайце gwar.mil.ru у рубрыку “Героі вайны”, набраць там у пошуку ці прозвішча свайго сваяка, ці назву населенага пункта. Рэдкая магчымасць пагартаць архіўныя дакументы, не падымаючыся з канапы.

●Сяргей Ёрш

Спис. № 477 По пор. № 187 / 872

Фамилія Ануфренинъ

Имя Иванъ

Отчество Кирилловичъ

Званіе Ефр. Лейбъ Гв. 2 стрълк. Царскосельск. пол. 2-я пулев. ком.

Губ. Гродненской

Уъздъ Слонимскаго

Волость

Селеніе (деревня, станица) д. Савичи

Холостъ, семейный

Въроисп.

Раненъ пулей въ лъвое колтно

---

Ануфрякинъ 134/63

Московское Городское Общественное Управленіе.

...АНИЗАЦІЯ ПОМОЩИ РАНЕНЫМЪ И БОЛЬНЫМЪ ВОИНАМЪ.

УВЪДОМЛЕНІЕ О ПРІЕМЪ.

Госпиталь 88 при Пушкинск... Хамовническ. уч...

№ ист. бол. 874 2. Поступилъ 4 числа IX мъс. 1914

Откуда поступилъ съ поъзд

Фамилія Ануфрякинъ

Имя и отчество Иванъ Кирилл...

Возрастъ 26 лътъ. — 6. Хол., жен., вдовъ.

Званіе или сословіе

Мъсто родины: губ. Гродненск. уъздъ (городъ) Слонимск. д. Савичи

---

Ануфрень 134/10

Всероссійскій Земскій Союзъ помощи больнымъ и раненымъ воинамъ

УВЪДОМЛЕНІЕ О ПРІЕМЪ

Губернія Казанская

---

Ануфренинъ 134/11

Всероссійскій Земскій Союзъ помощи больнымъ и раненымъ воинамъ.

УВЪДОМЛЕНІЕ О ПРІЕМЪ

Выписанъ ...

---

Усе нумары "Слонімскага краю", якія выйшлі на працягу 2016-2018 гадоў, можна знайсці на сайце інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат" : http://kamunikat.org/

# Крымінал на Слонімшчыне ў 1928 годзе

90 гадоў таму паліцыі найчасцей даводзілася займацца раскрыццём крадзяжоў: і ў горадзе, і ў вёсках. У ноч на 14 студзеня 1928-га крымінальнік-"гастралёр" Ян Казлоўскі з Вільні выняў шыбу ў акне дома ксяндза Расалоўскага ў Слоніме і скраў… пасцель. Яго хутка затрымалі. У чэрвені злодзеі залезлі ў дом Моўшы Асакоўскага на Ружанскай, 50, вынеслі з яго бялізну і адзенне на 220 злотых.




Слонімскі гандляр Гоўм не пакідаў тавар на ноч у сваёй краме, перахоўваў яго ў падвале дома па вуліцы Ружанскай, 15. Адтуль рыбу, апельсіны скраў і з'еў Станіслаў Мамай. У чэрвені ў слонімца Браніслава Араноўскага, зацятага радыёаматара, скралі радыёпрыймач. А ў Мэера Агушэвіча з Шасейнай, 12 знікла гумовае кола коштам 150 злотых. З дома па вуліцы Абалонь, 56 у Рышы Лемкін скралі 150 долараў і 10 рублёў золатам.

Вясной зламыснік з Лодзі, які працаваў цырульнікам у Ружанах, наведаў Слонім і спрабаваў скрасці скарбонку з ахвярамі ў касцёле. 9 верасня слонімец Міхал Навіцкі прыйшоў у праваслаўны сабор і перашкаджаў набажэнству. Мужчына быў п'яны. Супакойвацца ён не жадаў, давялося выклікаць паліцыю.

Злодзеі "працавалі" на кірмашах у Слоніме. 21 чэрвеня ў Паўла Кашэні з вёскі Стайкі Жыровіцкай гміны скралі аж 400 злотых.

Крадзяжы адбываліся і ў транспарце. У Шмуля Пінскага, які жыў на вуліцы Татарскай, 1, у цягніку Баранавічы — Слонім скралі каля 150 злотых.

У траўні Ірэна Лапо з Студэнцкай, 33 заявіла ў паліцыю на свайго сужыцеля Аляксандра Сямёнава, які "захапіў" яе рэчы. У ліпені пацярпела іншая жанчына, якая пазнаёмілася з мужчынам і адразу ж запрасіла яго да сябе ў госці. А ўначы ён знік і забраў з сабой 300 злотых.

Нярэдкімі былі спробы самагубстваў. Звычайна здаралася гэта з-за няшчаснага кахання ці з-за хваробаў. У чэрвені ў Мялькнавічах нехта Ян Крэт ударыў сябе брытвай па горле, яго завезлі ў бальніцу ў горад. У жніўні спрабавала сябе забіць служачая магістрату Аляксандра Колач. Восенню ў адным з гатэляў была спроба самагубства Эдварда Красінскага, якога характарызавалі, як алкаголіка.

Хапала ўзброеных нападаў. У лістападзе банда з шасці чалавек, узброеных стрэльбамі і рэвальверамі, прыйшла ў хату Яна Кузьміцкага ў Мыславе. Адкрылі страляніну, забілі гаспадара, забралі 200 долараў і збеглі. Паліцыя правяла арышты падазраваных. Сярод іх апынуўся Уладзімір Анішчык, але ў Міжэвічах ён уцёк з-пад арышту. Яго спрабавалі затрымаць у Сасноўцы, але няўдала. Пагоня працягвалася цэлы дзень, Анішчыка схапілі ў Сялявічах.

У ліпені быў зафіксаваны рэдкі выпадак — на 13-м кіламетры шашы Баранавічы — Слонім невядомы на ровары з рэвальверам спыніў дзве фурманкі і запатрабаваў грошы. Францішак Ліпко, які ехаў адзін, пагнаў каня і быў паранены ў плечы. Раз'юшаны нападнік стрэліў у нагу Конраду Дмухоўскаму, які быў з жонкай на іншай фурманцы. У яго ён забраў 3 злотыя і з'ехаў.

У вяскоўцаў было шмат прыхаванай нелегальнай зброі. Яе выкарыстоўвалі для палявання, а таксама для звядзення рахункаў. Па начах гучалі стрэлы. У лістападзе невядомы застрэліў з рэвальвера жыхара Чапялёва Канстанціна Мароза.

У слонімцаў была не толькі нелегальная зброя, але і легальная. У пачатку зімы на слонімскай вуліцы ўдзень у Міхала Куніцы двое хуліганаў спрабавалі адабраць ровар. Ён дастаў рэвальвер і пачаў страляць у паветра. Хуліганаў гэта не спыніла, яны захацелі забраць і рэвальвер. Але прыбег паліцэйскі, які затрымаў

зламыснікаў, імі аказаліся Міхал Магіла і Караль Мачны.

У пачатку снежня слонімцы гаварылі пра таямнічае знікненне баранавіцкага таксіста Вацлава Варшаўскага. Трое невядомых нанялі яго для паездкі ў Слонім. Пазней разбітую машыну знайшлі ў рове каля Альбярціна. У баку не было паліва. Лёс шафёра стаў вядомы праз некалькі дзён, яго труп знайшлі каля Тартакоў. Забілі таксіста, відаць, з-за грошай — пры сабе ён меў каля 500 злотых.

У пачатку верасня стала вядома пра затрыманне небяспечнага бандыта Яна Бабінскага (ён жа Казімір Бжоза-Бжэзінскі), які раней ўчыніў забойствы вазніцаў у Беластоку і Слоніме. Схапілі яго паміж Слонімам і Баранавічамі ды прывезлі ў турму ў наш горад.

Нярэдкімі былі забойствы сваякоў. Жыхар Клепачоў Антон Урублеўскі завёў сваю жонку Тэклю ў лес, забіў яе сякерай і закапаў. Яго арыштавалі. На допыце вясковец сказаў, што ўчыніў забойства "з нянавісці" — жонка была за яго старэйшая. Баляслаў Венгроцкі на дарозе Слонім — Дзераўная з нейкай прычыны забіў таксама сякерай свайго бацьку Францішка. А ў Вяценеўцы ў пачатку лістапада знайшлі забітым 17-гадовага Вінцэнта Савіцкага.

У студзені 15-гадовы жыхар Рахавічаў Міхал Раташ напаў на жыхарку Жыровічаў Вольгу Нядбалік, якая вярталася са Слоніма. Пагражаў кіем і патрабаваў грошы, але ў яе іх не было. Ён праверыў, забраў печыва на 2 злотыя. Неўзабаве да яго прыйшла паліцыя.

Было нямала кур'ёзных здарэнняў. У канцы лета паліцэйскі знайшоў на мосце праз Шчару спячага п'янага мужчыну, які аказаўся жыхаром Ваўкавыска. Ахоўнік парадку "злавіў" воз і адправіў госця горада пад арышт.

Восенню на Мінскай вуліцы (пазней — Пілсудскага, цяпер — Савецкая) конь спалохаўся вайсковага аўтамабіля, які з 80-га пяхотнага палка ехаў у дзяржаўны шпіталь. У выніку перакуліўся воз, з якога зваліліся п'яныя бацька і сын Лашчэўскія.

Былі і выпадкі хабарніцтва. Праўда, не заўсёды падазрэнні знаходзілі пацверджанне. У сакавіку ў Слоніме арыштавалі капітана Рудольфа Яніцкага. Нібыта, ён сістэматычна браў хабары ад хлопцаў, якія не хацелі ісці ў войска. Рабіў гэта так: звяртаўся ў паліцыю і сцвярджаў,




што хлопец у палітычным плане ненадзейны. Аднойчы гэта праверылі. Інфармацыя афіцэра не пацвердзілася. У дачыненні Яніцкага было распачатае расследаванне. Цікава, што ён быў карэспандэнтам "Варшаўскага кур'ера". Жыў на вуліцы Мінскай, 36 у Слоніме. У жніўні ў акне яго дома вынялі шыбу, памяшканне абрабавалі. Неўзабаве пасля таго суд у Брэсце рэабілітаваў капітана, зняў з яго абвінавачанне ў хабарніцтве.

У крымінальную хроніку ў якасці пацярпелых траплялі і паліцэйскія. Позна ўвечары 6 красавіка ў пастарунак паліцыі ў Альбярціне паведамілі, што на вуліцы б'юцца невядомыя. Два Францішкі, Гэмбіцкі і Трашкевіч, пабеглі на месца здарэння. Яны пабачылі траіх мясцовых жыхароў — Станіслава Романа, Уладзіслава Кнеўскага і Францішка Завадскага. Усіх іх павялі ў пастарунак. Аднак па дарозе яны сустрэлі вартаўніка Калейніка, на якога з нейкай прычыны напаў Раман. Паліцэйскі Гэмбіцкі спрабаваў яго спыніць і атрымаў удар па галаве, адказаў зламысніку ўдарам штыхом у плечы (у яго была стрэльба). Да бойкі падключыліся астатнія затрыманыя, паліцэйскі Трашкевіч быў паранены нажом. Ён страляў у Завадскага з рэвальвера, але той здолеў уцячы…



●Генадзь Гурскі

# Як польская паліцыя знайшла ў Слоніме архіў падпольнай КПЗБ

У міжваенны час нелегальна дзейнічала Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, якую кантралявалі і накіроўвалі з савецкага Мінска. Задача была — арганізоўваць масавыя выступленні рабочых і сялян супраць польскіх уладаў, альбо, кажучы па-цяперашняму, "дэстабілізацыя сітуацыі". У падпольную сетку былі ўцягнутыя тысячы чалавек, многія з іх прайшлі праз польскія турмы. Людзі рваліся да барацьбы за свае правы, а паколькі легальных магчымасцяў для гэтага практычна не было, ішлі за КПЗБ. Савецкая прапаганда працавала добра — многія верылі, што ў БССР заможнае і шчаслівае жыццё, і не разумелі, чаму ж адтуль, рызыкуючы жыццём, уцякае ў Заходнюю Беларусь так шмат людзей.



Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.

(Сэкцыя Камуністычнага Інтэрнацыяналу).

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

Спыніць крывавы тэрор фашыстоўскіх інквізытараў!

УЗЬНІМАЙЦЕСЯ НА АБАРОНУ СССР — БАЦЬКАЎШЧЫНЫ МІЖНАРОДНАГА ПРАЛЕТАРЫЯТУ!

ДА ПРАЦОЎНЫХ УСЯГО СЬВЕТУ,

ДА САЛДАТ УСІХ БУРЖУАЗНЫХ АРМІЙ!

Таварышы!

Узмоцненым тэмпам працуе ў фашыстоўскай Польшчы катаўская машына ваенна-палявых судоў. Штораз часьцей перад гэтымі судамі становяцца рабочыя і сяляне, а прыгавор гэтых судоў адзін — **СЬМЕРЦЬ ПРАЗ ПАВЕШАНЬНЕ.**

Шпаркімі тэмпамі ўся Польшча, Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь пакрываюцца лесам шыбеніц. У гэтых судох, у гэтых шыбеніцах польская буржуазія і яе ўрад — урад фашыстоўскай дыктатуры Пілсудзкага — шукаюць новай зброі барацьбы з узрастаючым рэвалюцыйным рухам рабоча-сялянскіх мас і нацыянальна-вызваленчай барацьбой прыгнечаных народаў, з КПП — правадыром і арганізатарам пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы.

Штораз часьцей урад Пілс... на-палявымі судамі для крыв... і сялянамі, якія становяцца ў... супроць злачыннай падрыхто... шчай і імпэрыялістамі ўсяго... на дзяржаву дыктатуры прале... будуецца сацыялізм.

Васіль Змагар

НЕ ПЛАЦІЦЬ НІ ГРАША ФАШЫСТОЎСКАМУ ЎРАДУ

Прапаганда ішла праз мінскае радыё (яго тайна слухалі) і друкаваныя матэрыялы (лістоўкі, газеты, брашуры). Да беларускіх вяскоўцаў бальшавікі звярталіся на іх роднай мове. Слонімшчына была адным з самых актыўных рэгіёнаў у дзейнасці КПЗБ. Польская паліцыя з дапамогай правакатараў у 1930-я здолела нанесці падполлю адчувальны ўдар: многія актывісты былі за кратамі, а шэраговыя ўдзельнікі былі напалоханыя арыштамі. А яшчэ быў захоплены архіў…

Вясной 1930-га польская паліцыя правяла ў Слонімеператрусы ў дамах асобаў, якіх падазравалі ў прыналежнасці да КПЗБ. У адным выпадкуператрус даў неспадзяваныя вынікі. У адным з дамоў на вуліцы Пілсудскага (цяпер — Савецкая) быў выяўлены архіў акруговага камітэта кампартыі. Там знайшлі сотні адозваў, інструкцый, перыядычных выданняў, брашур, атэістычных выданняў. Адзначалася, што некаторыя з іх адносяцца да 1928-1929 гадоў, а некаторыя толькі былі перапраўлены з савецкай Беларусі. Пасля гэтага правалу ў Слоніме прайшла чарговая хваля арыштаў.

●Генадзь Гурскі

# Склеп на Альбярцінскіх могілках



У першай палове XIX стагоддзя былі заснаваныя Альбярцінскія могілкі. Ад самага пачатку змяшаныя — там хавалі і праваслаўных, і каталікаў. Як і на Ружанскіх могілках у Слоніме, старыя пахаванні знаходзяцца побач з новымі. Сярод апошніх можна адшукаць рэшткі знішчаных пахаванняў XIX стагоддзя — крыжы, разбітыя помнікі. На жаль, у савецкія часы Альбярцінскія могілкі страцілі былое аблічча і яго ўжо не вярнуць.



Летам 2018-га падчас агляду і фатаграфавання могілак пабачыў рэшткі нейкага збудавання. Значная тэрыторыя агароджаная нізкай цаглянай сцяной з праёмамі ў выглядзе крыжоў. Яна часткова разбураная. Ад склепу, які імаверна там быў, заўважных слядоў ужо няма. Сюды, за сцяну, працяглы час скідалі смецце і ўтварылася стыхійная звалка…

Ад былой жыхаркі Альбярціна Н. М. даведаўся, што яна з дзяцінства (1950-я) памятае гэтыя сцены. Паміж імі ўжо ў той час толькі трава расла, а ўжо пасля пачалі кідаць смецце. Пыталася ў бабуляў, яны сказалі, што гэта стары склеп. А хто там быў пахаваны, не ведалі. Гэта значыць, не пры іх памяці ён там з’явіўся, у іх дзяцінстве ён ужо існаваў. Можна з вялікай доляй верагоднасці аднесці яго да XIX стагоддзя.



Магчыма, хтосьці з чытачоў “СК” нешта ведае пра склеп на Альбярцінскіх могілках і падзеліцца інфармацыяй.

●Сяргей Ёрш

# Слонім 90 гадоў таму

Momen. poświęcenia mostu na kanale rzeki Szczary w Słonimie

У канцы 1928 года Польшча святкавала 10-я ўгодкі сваёй незалежнасці. Святочныя мерапрыемствы праходзілі і ў гарадах Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў яе склад паводле Рыжскага міру. Ваяводская газета "Навагрудскае жыццё" ("Życie Nowogródzkie") выдала спецыяльны нумар. Ён быў багата ілюстраваны, распавядаў пра ваяводства, у тым ліку і пра Слонімскі павет. У згаданым нумары былі змешчаныя пяць здымкаў са Слоніма. Яны неякасныя, але рэдкія і мы іх змяшчаем у гэтым нумары "СК".



Most na rzece Szczarze w Słonimie

На адным з іх бачым момант асвячэння будынку старовства, якое займала былы кляштар

бернардзінцаў. У 1928-м прайшоў яго рамонт, пасля якога памяшканне слонімскага староства лічылася самым прыгожым у ваяводстве. На іншых здымках бачым два слонімскія масты (у тым ліку адкрыццё новага чыгуначнага моста над каналам), выставу быдла Слонімскага павета і мясцовую вытворчасць бетонных вырабаў.



Starostwa w Słonimie



Pokaz hodowlany, powiatu Słonimskiego



Betoniarnia Sejmikowa w Słonimie

ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Новы рэкорд для слонімскага перыядычнага друку



РАДУЙСЯ, ПРЕМИЛОСЕРДНАЯ ВЛАДЫЧИЦЕ, ПРЕДСТАТЕЛЬСТВО НАШЕ И ВОЗРАДОСТНОЕ ЗАСТУПЛЕНИЕ

ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ

Багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток

ВЫДАННЕ СЬВЯТА-УСПЕНСКАГА ЖЫРОВІЦКАГА МАНАСТЫРА
2018 г. № 2 (105)

Другі за 2018 год нумар багаслоўска-літаратурна-мастацкага лістка “Жыровіцкая абіцель” выйшаў рэкордным накладам — 100 тысяч асобнікаў! Дагэтуль рэкордным для слонімскага перыядычнага друку быў 75-тысячны наклад. Нумар прысвечаны цудатворнай Жыровіцкай іконе Божай Маці.

“Жыровіцкая абіцель” выдаецца з 1997 года. Выданне рэдагуе манах Іаан (Алег Бембель). Ужо выйшлі 105 нумароў.




# Ларыса Геніюш: Ступаю моўчкі па святой зямлі…

Гэты верш славутай беларускай паэткі Ларысы Геніюш (1910 — 1983) упершыню апублікаваў у 1993 годзе* наш зямляк пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік. Ён расшыфраваў яго паводле аўдыёзапісу, зробленага ў ліпені 1981-га ў хаце Геніюш у Зэльве. Паэтка прачытала “Два вершы пра Жыровічы”, якія Ягоўдзік палічыў варыянтамі. Адзін з іх змяшчаем у “СК”. *“Ларыса Геніюш была глыбока веруючым чалавекам, таму вершы, напісаныя ёю пасля наведвання славутых Жыровічаў, што непадалёку ад Слоніма, гучаць як малітвы — пранізлівыя малітвы за зямлю нашу, за шматпакутны народ наш…”,* — піша Уладзімір Ягоўдзік.

Жыровічы — святы для нас куточак,
Дзе цэрквы ў неба вежы узнялі.
На дрэве Маці Божай абразочак —
Благаслаўленне для маёй зямлі.

Чужыя ў нас былі паны, вяльможы,
З цяжкое працы жыў стары народ.
Жыў ён з любові, з ласкі Маці Божай,
Якая з ім была ў часы нягод.

Сягоння з хмараў дождж на землю выпаў,
Ступаю моўчкі па святой зямлі.
Благаславі мяне, старая ліпа,
І ад ліхога голлем затулі.

Вякі ты маіх продкаў засланяла
І ад набегаў, войнаў сцерагла.
Я ля цябе — і спакайней мне стала.
Упэўнена стаю каля ствала.



Свая душою — з гэтага я роду,
Прыйшла к табе сягоння, як у сне.
Ты папрасі айцоў сівабародых,
Каб успомнілі ў малітвах пра мяне.

Дождж не сціхае, усё навокал мокне.
У Жыраве я сяння першы раз.
Шкадую сэрцам, што не пастушок я,
Які убачыў той святы абраз.

Мне цяжка у жыцці было, затое
Дай мне пачэсна на зямлі пражыць.
З крынічкі напаі мяне святое,
З якой так прагну тваю праўду піць.

О Маці Божая! Ты — ласкава ў цярпенні,
Прамень святла, што праз вякі не згас,
На голаў грэшную маю пашлі благаславенне
І будзь пры мне ў жыцця адказны час.

Хай будзе мір і ўсюды Твая воля,
І Бог, Твой Сын, распяты на крыжы.
Стары народ наш не пакінь ніколі
І ад нягодаў землю зберажы!

Ларыса Геніюш

**Ягоўдзік У. Жыровічы. Малітва пад дажджом // Звязда, 1993, № 65, 7 красавіка.*

# Помнік з надпісам на харвацкай глаголіцы





У пачатку снежня Павел Булаты напісаў у Facebook, што каля Георгіеўскай царквы ў Жыровічах пабачыў помнік-тубму XIX стагоддзя з надпісам на незразумелай мове і алфавіце. Праілюстраваў допіс фотаздымкамі. Спецыялісты хутка разгадалі загадку: гэта харвацкая глаголіца. Паставіў помнік сваім жонцы і сыну былы ўніяцкі, а пасля праваслаўны святар, далей — архіепіскап Міхаіл Галубовіч (1803 — 1881). Ён — ураджэнец Брэстчыны, доктар багаслоўя і царкоўнага права. У Жыровічах з’явіўся ў 1820-я, калі выкладаў у мясцовай “Літоўскай духоўнай семінарыі”, быў інспектарам. У 1839-м перайшоў з уніяцтва ў праваслаўе, прызначаўся епіскапам пінскім, брэсцкім, мінскім.

У Жыровіцкім манастыры Галубовіч пражыў апошнія гады свайго жыцця. Відаць, тады ён і ўсталяваў помнік. Гісторыкі кажуць, што надпіс на харвацкай глаголіцы — гэта мода таго часу, сярод праваслаўнага духавенства быў папулярны панславізм.



ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Успенскі сабор у XVIII стагоддзі

У архіве слонімскага краязнаўцы і археолага Васіля Супруна адшукаўся зроблены ім 20 сакавіка 1985 года малюнак Жыровіцкага Успенскага сабора. Выгляд храма на ім нязвыклы, і гэта не дзіўна. На адвароце ёсць пазнака, што перад намі рэканструкцыя. На думку Супруна, менавіта так выглядаў сабор у XVIII стагоддзі. Справа ў тым, што ён даследаваў яго, выявіў сляды пазнейшых перабудоваў.* Таму малюнак — гэта не нейкая фантазія, храм сапраўды мог так выглядаць больш за 200 гадоў таму.

Успенскі сабор быў пабудаваны ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Яго істотная перабудова адбылася ў першай палове XIX стагоддзя. Падчас яе зніклі дзве вежы, якія мы бачым на малюнку.

●Сяргей Ёрш

**Супрун В. З успамінаў пра даследаванні Жыровіцкай святыні // Слонімскі край, 2016, № 2-4.*





# Зноў пра “таямнічы аб’ект”

У чэрвені бягучага года “СК” публікаваў здымак Слоніма, зроблены фатографам Барысам Вайнштэйнам напярэдадні Першай сусветнай вайны* (вызначыць гэта проста — Замосце яшчэ не разбурана). Падчас нямецкай акупацыі фота трапіла на паштоўку, якая была выдадзена, як мінімум, у двух варыянтах (надпіс выкананы на нямецкай мове). Нашу ўвагу прыцягнуў дзіўны “аб’ект”, які вісіць над горадам у напрамку касцёла св. Андрэя. Ён нагадвае насякомае, падвешанае на нітцы. Злева на паштоўцы можна пабачыць нахілены слуп дыму. Ён, нібыта, ідзе да зямлі ад яшчэ аднаго аб’екта, які знаходзіцца ў паветры…



Слонімскі край, №6(28)

“Таямнічы аб’ект” над касцёлам св. Андрэя

Вядомы слонімскі фатограф пачатку XX стагоддзя Барыс Вайнштэйн пакінуў нам адну загадку. Добра вядомы і шмат разоў друкаваўся яго здымак, зроблены напярэдадні Першай сусветнай вайны. Вайнштэйн здымаў Слонім з пажарнай вежы (яго фотамайстэрня была на Панятоўскага, 8, цяпер гэта пачатак вуліцы Пушкіна*). На фота бачым Спаса-Праабражэнскі сабор і касцёл св. Андрэя. Калі яго паваліччаць, то можна разгледзець, што над апошнім храмам вісіць нейкі “аб’ект”.

Каб гэта быў звычайны фо-

*Над касцёлам можна пабачыць нейкі незразумелы аб’ект. Злева на здымку нешта падобнае на слуп дыму.*



ноябрь №22 (423)

АНОМАЛИИ

2018 год

СЕКРЕТНЫЕ ИССЛЕДОВАНИЯ • СЕКРЕТНЫЕ ИССЛЕДОВАНИЯ

5

ЗАГАДОЧНЫЙ ОБЪЕКТ В СЛОНИМЕ

Паколькі гэта не звычайны здымак, а паштоўка, то тэхнічны брак малаверагодны. Але ўсё ж магчыма, што нават з яго наяўнасцю было вырашана паштоўку надрукаваць. У Вайнштэйна магло не быць іншых панарамных даваенных здымкаў Слоніма, зробленых з такога ракурсу.

У спробе разгадаць загадку паштоўкі, мы звярнуліся ў рэдакцыю мінскай *“Аналитической газеты “Секретные исследования”*. На яе старонках з’яўляецца нямала публікацый падобнай тэматыкі. Неўзабаве з’явіўся артыкул.** Вадзім Дзяружынскі змясціў і наш ліст, і нашу публікацыю. Далей ідзе яго каментар. Дзяружынскі звяртае ўвагу на тое, што на здымку бачныя сляды “значнага рэтушавання”.

“Сам аб’ект складаецца з скаплення круглых дэталяў, якіх мы на фота налічылі каля 32-36, і гэтыя дэталі згрупаваныя вакол цэнтра, з якога ва ўсе бакі выходзяць завостраныя нібы калючкі… Магчыма, гэта плод з насеннем расліны тыпу дзядоўніка (лапуха), які быў падняты ў паветра ветрам”. Таксама аўтар не выключае, што гэта магла быць “высахлая калючка, да якой прычапілася павуціна са смеццем”. Дзяружынскі піша: “Ва ўсялякім выпадку гэта павінен быць лёгкі сухі аб’ект, які падымае вецер, а адлегласць ад аб’ектыву камеры да яго — метр ці паўтара”.

Аднак Вадзім Дзяружынскі прызнае слабасць гэтай версіі, паколькі невядомая вытрымка, з якой рабіўся здымак. Таму ён разглядае галоўнай версіяй “брак пры працы з фота”. На фотапласціну мог трапіць нейкі аб’ект памерам прыблізна 2 на 2 мм. І яго маглі адразу і не заўважыць. Аднак, калі рабілася рэтушаванне, чаму ж пакінулі “аб’ект”, які можна было лёгка прыбраць без страт для агульнай “карцінкі”?

На наш погляд Дзяружынскі памыляецца, калі лічыць, што Вайнштэйн быў эвакуяваны са Слоніма на ўсход, а яго фота выдалі ў выглядзе паштоўкі немцы “для прапаганды сваіх імперскіх заваёў у Беларусі”. Ну і навошта тады было акупантам захоўваць “аўтарскія правы”? Яны проста не згадалі б прозвішча Вайнштэйна і ўсё. Найхутчэй ён быў у Слоніме падчас нямецкай акупацыі і меў непасрэднае дачыненне да выхаду паштоўкі.

Аўтар артыкула ў *“Аналитической газете “Секретные исследования”* прызнае, што застаецца “шмат незразумелага”, таму прапануе чытачам узяцца “за расследаванне гэтай дзіўнай гісторыі”. Таму працяг яшчэ будзе.

●Генадзь Гурскі

**Гурскі Г. “Таямнічы аб’ект” над касцёлам св. Андрэя // Слонімскі край, 2018, № 6(28). Чэрвень. С. 13.*

***Деружинский В. Загадочный объект в Слониме // Аналитическая газета “Секретные исследования”, 2018, № 22. Лістапад. С. 5.*

# Малюнак Мастaвой вуліцы ў Слоніме

Нядаўна ўдалося разгадаць загадку малюнка “Вуліца Гандлёвая ў Слоніме. XVIII ст.”, змешчанага ў кнізе “Памяць”.* Укладальнікі гэтай кнігі не пазначылі ні аўтара, ні выданне, адкуль яго перадрукавалі. Нешта падобнае было з малюнкам храма на Скробаўскай вуліцы, які змешчаны ў той жа кнізе.**

Што бянтэжыць з таго, што бачым на малюнку? Калі гэта Гандлёвая вуліца (цяпер — Першамайская), то на ёй мусіць быць касцёл, а не царква. Да таго ж навакольныя будынкі нават у канцы XVIII стагоддзя былі ў асноўным драўляныя, а не каменныя. А яшчэ вуліца дзіўна абрываецца там, дзе павінна была быць Дамініканская плошча. Нібыта, на тым месцы ўскраіна…

Разабрацца дапамагла паштоўка, якая з’явілася на сайце allegro.pl. На ёй бачым той жа малюнак! Паштоўка выйшла ў берлінскім выдавецтве не пазней за 1917 год. На ёй пазначана: “Слонім: Вуліца”. Атрымліваецца, што гэта не малюнак XVIII стагоддзя, яго аўтарам з’яўляецца нямецкі вайсковец. Ён маляваў слонімскую вуліцу ў 1915-1917 гадах.

Іншае пытанне — якую вуліцу мы бачым? Гэта не Гандлёвая, а Маставая вуліца (цяпер — Янкі Купалы). Храм — гэта Спаса-Праабражэнскі праваслаўны сабор. Праўда, выява яго досыць схематычная, значнай часткі зусім не відаць. Дамы, якія адлюстраваны на малюнку, дакладна адпавядаюць будынкам на фотаздымку часоў Першай сусветнай вайны.

Такім чынам яшчэ адной загадкай стала менш.

●Сяргей Ёрш





Ад часоў першабытных — 1917

Вуліца Гандлёвая ў Слоніме. XVIII ст.



*Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск: БЕЛТА, 2004, С. 96.

**Ёрш С. Пра малюнак царквы і капліцы на Скробаўскай вуліцы // Слонімскі край, 2018, № 9(31). Верасень. С. 10.

# Сяргей Хмара: Сяджу ў хаце без хлеба...

З АРХІВАЎ

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з 1984 года захоўваецца архіўная справа, у якую ад таго часу ніхто не зазіраў. У ёй рукапісны ліст слонімскага паэта Сяргея Хмары (1905 — 1992) да Міхася Машары (1902 — 1976), таксама паэта. У канцы 1920-х яны разам былі ў віленскай турме Лукішкі па справе Беларускай сялянска-работніцкай грамады. А пасля іх шляхі разышліся. Хмара жыў у Казлоўшчыне, далёка ад Вільні, перыядычна меў праблемы з польскай паліцыяй, друкаваўся ў перыёдыцы мала. А вось для Машары ў 1930-я гады настаў зорны час, рэгулярна выходзілі яго зборнікі.

Летам 1938-га Сяргей Хмара выйшаў на волю пасля 15 месяцаў у польскім канцлагеры Бяроза-Картузская.* Ён змучаны, хворы, але нязломлены, поўны энергіі. З ліста да Міхася Машары даведваемся, што Хмара ў Казлоўшчыне церпіць матэрыяльную нястачу. Згадвае свой ненадрукаваны зборнік вершаў і цмяныя перспектывы знайсці выдаўца на новы яго варыянт. Часам даводзілася сустракаць меркаванні, што слонімскі паэт ужо на эміграцыі прыдумаў, што ў 1930-я спрабаваў стварыць арганізацыю мясцовых маладых літаратараў. Як бачым, ён пісаў пра яе яшчэ ў лісце да Міхася Машары ды адзначае, што менавіта за гэтую ініцыятыву яго адправілі ў канцлагер.


*Сяргей Хмара і Міхась Машара*

Ліст друкуецца з захаваннем моўных асаблівасцяў. У тэксце расстаўленыя знакі прыпынку, зробленыя мінімальныя праўкі.

●Сяргей Ёрш

Машара!

Выбач, што так безуграматна пішу да цябе. Можа ты цяпер улезшы на добра на Парнас, якшацца з такімі, як я, ня хочаш. Вы[й]шаўшы апошні раз з-за кратаў у [19]38 г. і пачуўшы аб тваім разьвіцьці і росьце, хацеў з табой пабачыцца, пагаварыць, але ўсё неяк не ўдавалася, бо я ж з-пад Слоніма, а ты дзе! Зрэштай пайшлі мы і крыху па іншых дарогах з тэй пары, як калісьці былі разам. Помніш [19]27 і [19]28 г. у Лукішках і справу грамады, дык хіба помніш і мяне, Сіняка Сяргея. Абодва паэзыяй займаліся. Ты чытаў мае, помню сшыток тваіх, што тады на волю хацеў паслаць ды адказалі.** Шмат з таго часу перажылося. Ты вы[й]шаў, іначай крыху пачаў заглядацца на сьвет, а мо і быў такім і раньней. Я застаўся консэквэнтным*** грамадаўцаў. З тэй пары шмат пабываў на этапах, цяпер вы[й]шаў з Бярозы па 15 месяцах і фактычна ўжо не за паліт[ычныя] справы[,] а за літэрацкія (ініцыятыва сарганізаваць прафсаюз малад[ых] белар[ускіх] літэрата[ра]ў), ну ды аб гэтым годзі. Сяджу у хаце, бяз грошаў, хлеба, бо батрак.

Чытаю ў "Калосьсях" аб табе, аб тваіх зборніках, а ці ты ведаеш, што да гэтай пары ніводнага ня чытаў, бо дзе ж вазьму грошаў. Толькі тое [чытаў], што [ў] Шляху моладзі і Калосьсях друкуеш.

У цябе зборнік на зборніку. Танк таксама апошнія гады плодны, а я вось ад [19]25 году, калі першы раз друкаваўся, і да гэтай пары ня маю аніводнага свайго. Першы зборнік прыгатов[іў] да друку, "Бунтарнае", згінуў [ён] у 1930 г. пры ліквід[ацыі] выдавец[тва] "Рунь", цяпер ад [19]36 г. ляжыць матэрыял на зборнік у Вільні (100 вершаў), але не магу знайсьці выдаўца. Таму па ідэолёгіі непадходны, іншаму штось іншае. І ляжыць.

Цяпер чаму да цябе пішу. Бо бачыш, хачу аднак пазнаёміцца з усімі тваімі творамі. Ты, як аўтар, можа яшчэ маеш свае аўтарскія [асобнікі], дык прасіў бы, калі можаш, калі не ганарышся і калі помніш старых знаёмцаў, дык прышлі ўсё, што можаш, са сваіх твораў.

мой адрыс: Siniak Sergiusz

p[oczta] Kozłowszczyzna k/ Słonima

Бывай! Цісну руку

Сяргей Хмара

адрас надаўцы: poczt Kozłowszczyzna
Казлоўшчына пав. Слонім. p. Słonim.
Сяргей Сіняк.

*Ёрш С. Першы ліст Сяргея Хмары пасля вызвалення з канцлагера // Слонімскі край, 2017, № 8(18). Верасень. С. 19.

**Адмовілі, не дазволілі.

***consequens (лат.), паслядоўны, паслядоўнік.

# Беларускамоўная паштовая картка і Гальяш Леўчык

У архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адшукалася невядомая беларускамоўная паштовая картка, выдадзеная ў Варшаве ў канцы 1930-х гадоў. Яе выдавец — беларускі рэлігійны дзеяч Ян Пятроўскі (1905 — 2001). З 1932 года ён жыў у Дзярэчыне Слонімскага павета (цяпер — Зэльвенскі раён), быў пратэстанскім пастарам (адносіўся да Метадысцкай царквы). З 1935-га Пятроўскі выдаваў беларускамоўны рэлігійны часопіс "Сьветач Хрыстовае Навукі". Рэдакцыя знаходзілася ў Дзярэчыне, а друкаваўся ён у Вільні. Прынамсі, да 1937 года.




Паштовая картка змяшчае рэкламу "Сьветачу Хрыстовае Навукі" — частку першай старонкі аднаго з нумароў часопіса за 1938 год. З яе вынікае, што ў той час ён рэдагаваўся і выдаваўся ўжо ў Варшаве. На паштоўку трапілі імя і прозвішча слонімскага паэта Гальяша Леўчыка — у тым нумары "Сьветачу Хрыстовае Навукі" быў адзін з яго рэлігійных перакладаў. Леўчык і Пятроўскі цесна супрацоўнічалі, ліставаліся. Безумоўна, у архіве Леўчыка была і такая паштоўка.

●Сяргей Ёрш

# Палац Пуслоўскіх у Альбярціне

Слонімскі грамадскі актывіст Віктар Марчык атрымаў адказы ад чыноўнікаў у справе былога палаца графаў Пуслоўскіх у Альбярціне. Будынку відавочна патрэбны рамонт. Слонімцы збіралі подпісы пад калектыўным зваротам аб уратаванні помніка архітэктуры першай паловы XIX стагоддзя.



У адказе з Міністэрства культуры адзначаецца, што гісторыка-культурная каштоўнасць катэгорыі "2" комплекс былой сядзібы "Альбярцін" не знаходзіцца ў ліку тых аб'ектаў, рамонт якіх можа фінансавацца з рэспубліканскага бюджэту. У лісце з Слонімскага раённага выканаўчага камітэта паведамляецца пра некалькі спробаў атрымаць замежныя гранты на аднаўленне комплексу. Апошняя была зробленая ў кастрычніку ў спрадзяванні на фінансаванне Еўрасаюза. Праект мае назву "Развіццё экалагічнага турызму ў паркава-сядзібным комплексе Пуслоўскіх з дапамогай тэхналогій соцыякультурнай дзейнасці".

●СЧ

"Слонімскі край" — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару Сяргей Ёрш.

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com

Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.